Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 2—11
(Wilno, Ostrobramska 2—11).
Адчынена
ад 9 да 19 г.

Часапіс
выходзіць
раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.
Нумар паштовага разрахунку: 100.

№ 12 (21) | Вільня, 5-га лістапада 1937 г. | Год II.

## Два палітычна-ідэолёгічныя блёкі і беларусы

Сьвет дзеліцца цяпер на два вялізарныя палітычныя блёкі, якія ў бліжэйшай ці далейшай будучыне спаткаюцца з сабою ў сьмяротным змаганьні. З аднаго боку Нямеччына, Італія і Японія, а з другога — Англія, Францыя і Саветы. Гэтыя блёкі некаторыя завуць яшчэ *ідэолёгічнымі* блёкамі, але гэта ня зусім слушна. Назоў «ідэолёгічны блёк» хутчэй можна аднесьці да першага блёку, які ёсьць болей сцэмэнтаваны нацыяналістычнай, або як цяпер кажуць «фашыстоўскай» ідэолёгіяй, хоць, праўду кажучы, паміж італьянскім фашызмам, нямецкім расізмам і японскім нацыяналізмам ёсьць вялікія рожніцы. Другі блёк нават гэтакай ідэолёгічнай суцэльнасьці ня мае: там знаходзяцца дзьве буржуазна-дэмакратычныя дзяржавы і адна пралетарска-камуністычная (Саветы), затым гэтага другога блёку ня можна назваць *ідэолёгічным* у поўным значэньні гэтага слова. Дзеля гэтых прычын будзем называць гэныя два блёкі, *палітычна-ідэолёгічнымі блёкамі*. Гэта робім яшчэ дзеля тэй прычыны, што за чыстую ідэолёгію рэдка хто змагаецца, а найболей людзі змагаюцца за эканамічныя інтарэсы, якія ў чалавечым жыцьці адыгрываюць рашаючую ролю. Трэба ведаць, што *кожная політыка апіраецца на інтарэсе і кіруецца інтарэсам*.

Першы блёк яшчэ часам завецца блёкам дзяржаў без прастору і каленіяў (блёк дзяржаў галодных), а другі — блёкам дзяржаў з прасторам і каленіямі (блёк дзяржаў насычаных).

*Імкненьні першага блёку:* здабыць для сябе прастор дзеля каляніzацыі, пашырыць палітычныя і эканамічныя ўплывы на іншыя краі, забясьпечыць для сябе гандлёвыя дарогі на моры і на сушы. А дзеля таго што каленіі і наагул прасторы дзеля эканамічнай і гандлёвай экспансіі знаходзяцца ў руках перадусім Англіі і Францыі, варожасьць першага блёку скіравана проціў гэтых дзяржаў. Варожасьць проціў Саветаў выплывае яшчэ з тэй прычыны, што яны імкнуцца пашырыць камунізм на ўсе краі, дзеля гэтагаНямеччына і Японія заключылі спэцыяльны антыкамуністычны саюз, да якога мае прыстаць і Італія. Апроч гэтых агульных мэтаў кожная з гэтых дзяржаў мае яшчэ свае спэцыяльныя мэты, і так: Італія імкнецца да апанаваньня берагоў Міжземнага мора і заснаваньня вялікай Рымскай імпэрыі, так як было дзьве тысячы гадоў таму за Цэзара і Аўгуста; Нямеччына —да здабыцьця калёніяў і пашырэньня сваіх уплываў на Усход, а Японія — да апанаваньня цэлай Азіі (Кітаю, Сібіру, Туркестану, Індыі).

*Імкненьні другога блёку*: Затрымаць пры сабе ўсе каляніяльныя прадваенныя і паваенныя здабычы; недапусьціць да пашырэньня палітычнай, эканамічнай і гандлёвай экспансіі фашыст. дзяржаў; абараніць свае гандлёвыя дарогі. А дзеля дайсьці да гэтага, трэба ас лабіць свайго праціўніка, а пакуль ён уваружыцца і нападзе, уваружыцца самым і пры першай аказіі разбіць тых, хто робіць замах на іхны стан уладаньня. Гэтакія імкненьні перадусім Англіі і Францыі. А што датыча Саветаў, дык яны хочуць захаваць ад зьнішчэньня свой камуністычны лад, абараніць ад падзелу сваю тэрыторыю і, калі ўдасца, пашырыць камунізм на ўвесь сьвет.

*Сілы* кожнага блёку былі да апошняга часу бадай роўныя. Да фашыст. блёку апроч Нямеччыны, Італіі і Японіі належаць яшчэ Вэнгрыя, Партугалія, Баўгарыя, а за Гішпанію ідзе бой; да дэмакратычна камуністычнага — апроч Англіі, Францыі і Саветаў — Чэхаславаччына, Галяндыя, Літва. Апошнім часам да гэтага блёку выразіў сваю сымпатыю прэзыдэнт Злуч. ШтатаўРузьвэльт,дык трэба лічыць, што цяпер сілы перахіліліся на старану другога блёку. За Кітай ідзе бой у Азіі, таксама як за Гішпанію ў Эўропе. Калі ў Гішпаніі перамогуць паўстанцы, а Кітай узалежніць ад сябе Японія — сілы абодвух блёкаў бадай зраўняюцца ізноў. Апроч гэтага Італія мае намер перацягнуць на свой бок арабаў і наагул мусульманскі сьвет, а Японія —усе мангольскія плямёны Азіі, а нават Індыю. Дыпляматы ўсіх дзяржаў ня сьпяць. Калі аж у Вільню прыяжджаў японскі дыплямат гаварыць з беларусамі, дык ясна, што такія гутаркі адбываюцца з усімі народамі, якія могуць аслабіць або ўзмацаваць той, ці іншы блёк. Перажываем перад фізычным боем вялікі дыпляматычны бой. Хто выйдзе пераможнікам у гэтым дыпляматычным, а потым фізычным бою — згадаць трудна. Многа залежыць ад таго, хто пераможа ў Гішпаніі і Кітаі, дзе адбываюцца пробы, якбы агульныя рэпэтыцыі, будучай вялікай вайны.

Кудым маем пахіліцца і да якога блёку прыстаць мы, беларусы? Ці да першага, ці да другога, а можа маем захаваць нэйтралітэт, так як гэта хочуць зрабіць іншыя народы? Пытаньні важкія, ад вырашэньня іх залежыць будучыня беларускага народу. Дзеля таго, што гэтыя пытаньні вельмі важкія, мы іх цяпер аканчальна вырашаць ня будзем, а паставім толькі некаторыя тэзы, якія будуць служыць нам паказьнікамі ў нашай дзейнасьці.

*Першая тэза*: мы проціў інтэрвэнцыі на нашых землях якойнебудзь чужой сілы ў справе беларускага народу, які знаходзіцца ў граніцах Савецкага Саюзу.

Прычыны нашага становішча такія: 1) Тыя дзяржавы, якія маюць намер ісьці на Усход, хочуць эксплёатаваць наш край, а на эксплёатацыю нашай краіны Захадам, згадзіцца ня можам, так як не згаджаемся на эксплёатацыю яе Усходам. 2) Інтэрвэнцыя будзе адбывацца на нашых землях, дык вайна зьнішчыць іх зусім. Прыгэтым будзе зьнішчана ня толькі фізычнае, але і духовае і эканамічнае жыцьцё народу. 3) У паняцьці «інтэрвэнцыя» ляжыць паняцьце „няволя“, бо тая дзяржава, якая будзе рабіць інтэрвэнцыю, будзе змагацца не за інтарэсы беларускага народу, а за свае ўласныя. Трэба ведаць, што пры кожнай інтэрвэнцыі Беларусь будзе залежнай, бо тая дзяржава, якая будзе вызваляць яе з іншай няволі, возьме ў сваю.

*Другая тэза*: не баяцца новай вялікай вайны,якая будзе адбывацца далёка ад нашага краю (напр. на Далёкім Усходзе) і якая будзе нішчыць Саветы. Гэта вайна павінна прывесьці да разгрому Саветаў і дасьць магчымасьць беларускаму народу ўзяць вырашэньне сваей долі ў свае ўласныя рукі, так як гэта было ў 1917-18 г.

А цяпер паставім яшчэ адно пытаньне: што рабіць тады, калі паміма нашай волі разгарыцца ваенны пажар на беларускіх землях або хоцьбы дыпляматычнае змаганьне за беларускі народ? Гэтае пытаньне настолькі важнае, што яго вырашыць *цяпер* мы ня маем магчымасьці,дый ня ведаем варункаў, якія ўложацца ў будучыне. Скажам толькі, што тады паміж загрожанымі агульнай бядой народамі павінна дайсьці да паразуменьня і саюзу з мэтай узаемнай помачы. Беларускі народ будзе шукаць саюзу з тымі народамі, якія спагадаюць яму і імкнуцца да асягненьня яго найвышэйшага Ідэалу, ягонага нацыянальнага, культурнага і эканамічнага разьвіцьця.

Гэткае нашае становішча адносна двух блёкаў. Разам з гэтым мы крытычна глядзім на становішча тых беларускіх палітычных кірункаў, якія цалкам і без засьцярог ар'ентуюцца на адзін або на другі блёк. Трэба заўсёды помніць, што кожны блёк нясе нам той грамадзкі лад, які сам мае. Пры перамозе першага блёку нам грозіць, як найбліжэйшы, нямецкі расізм, а пры перамозе другога — расейскі камунізм. А мы ня хочам накінутага грамадзкага ладу, але імкнёмся да тварэньня свайго ўласнага ладу, якіб адказваў жыцьцёвым варункам беларускага народу а гэтым ладам ёсьць *каапэратызм*.

## Аб жывых беларускіх справах.

З правінцыі мы атрымалі пісьмо, у якім закрануты жывыя беларускія справы. Пісьмо паходзіць ад сялян вёскі Буйбы (у Ашмяншчыне), аўтар (ці аўтары) пісьма вельмі добра ар'ентуюцца ў бел. справах і відаць, пільна чытаюць бел. прэсу. Крытыкуючы ў пісьме паміж іншым і нас (ня могуць зразумець каапэратывізму), крытыкуючы і іншыя беларускія кірункі і справы, але спакойна і рачова, затым гэтае пісьмо зьмяшчаем, як дыскусыйны матар'ял.

Паважаны Грамадзянін Рэдактар!

Просім зьмясьціць наш ліст на старонках газэты „Беларускі Фронт“. Мы сяляне вёскі Буйбы ў ліку 12 асоб прачыталі „Бел. Фронт“ з 5.X.37 г. і «Шлях Моладзі з 15.X.37 г. а такжа папярэднія нумары, усебакова прадыскутавалі і лічым, што ня лішнім будзе ўзяць голас у паасобных справах, а пераважна ў Вашай сварцы з «Шляхам Моладзі» і ўсе прыйшлі да наступных выводаў:

1) Каапэратывізм наш ніяк не зразумелы, ня можам сабе ўявіць, як гэта справа будзе выглядаць і як яе рэалізаваць, гэта для нас цёмна, як ноч.

2) Зацемка аб беларускім школьніцтве ў „Беларускім Фронце“ зусім правідловая і вельмі падабалася таму, што справа бел. ліцэю хоць і вельмі паважная і неабходная, але яна цікавіць больш усяго толькі адзінкі, бо толькі адзінкі могуць сабе пазволіць вучыцца ў вышэйшых школах, а для нас сялян і нашых дзяцей павінна быць прадусім народная школа і то ў роднай беларускай мове. Спадзяёмся і чакаем, што „Бел. Фронт“ у найбліжэйшыя нумары больш і шырэй асьветліць справу беларускай школы і паставіць справу ясна, што і як рабіць, каб яе здабыць.

3) Вельмі правідлова „Бел. Фронт“ паставіў справу ажыўленьня арганізацыі „Зьвяз“ і яго працы.Мы аб гэтай арганізацыі амаль нічога ня ведалі, але калі статут ягоны падобны да статуту БІК і К, як падае „Бел. Фронт“, а другіх беларускіх культурна-гаспадарчых арганізацыяў няма, дык трэба ажывіць гэтую. Хоць БНА існуе, але няведама, што і дзе яна робіць, бо грамадзкай працы штосьці ніякай ня відна, а БНА, як арганізацыя палітычная, павінна тымбольш працаваць. Бязумоўна што трэба і неабходна ажывіць працу „Зьвязу“, бо гэта якраз у інтарэсах беларускага народу. Мы добра ведаем: калі беларусы нічога ня будуць рабіць, то будзе рабіць нехта іншы і само сабой зразумела, што

# На беларускім грунце.

(*Агляд беларускага жыцьця*).

**Справа рэдактара „Бел. Фронту“ ў Апэляцыйным Судзе.**

Дня 12.X. г.г. Апэляц. Суд у Вільні разглядаў справу В. Папуцэвіча, б. рэдактара „Б. Фр.“, абвінавачанага з арт. 154 у сувязі з арт. 93 і асуджанага Акружным Судом на год турмы з „завяшэньнем“ кары на 5 гадоў. Акт абвінавачаньня мы падавалі ў н-ры 5 „Б. Фр,“ сёлета, але затым, што прэса („Kurjer Wil.“ 14.X. г.г.) падала яго ня зусім згодна з праўдай, мы яго паўторым:

„У рэдакцыйным артыкуле „Залежнасьць ці незалежнасьць“, зьмешчаным у № 3 „Бел. Фронту“ з дн. 5.VIII. 1936 г. цьвердзіцца, што ня ўсе Беларусы разумеюць патрэбу „поўнай незалежнасьці Беларусі“ і, аглядаючыся на Усход ці на Захад адтуль чакаюць „вызваленьня ад усялякай нядолі“, хоць, паводле аўтара артыкулу, ані фашысты ані камуністы ня маюць права накідаць Беларусам свайго грамадзкага і палітычнага ладу. Далей у зьмесьце гэтага артыкулу падчырківаецца, што варункам здабыцьця „поўнай незалежнасьці“ ёсьць: 1) сьведамая і здэцыдаваная воля народу здабыць незалежнасьць і 2) акт гэтай сьведамасьці і здэцыдаванай волі ў адпаведны час; пробаў гэтага трэба даглядзецца ў натугах тварэньня ў 1917 г. беларускага войска і ў арганізаваньні аружнага паўстаньня ў 1920 г. ў Случчыне. У далейшым працягу аўтар разважае, ці ў сучаснасьці Беларусы ў сваей масе маюць гэтую здэцыдаваную волю, прыходзіць да вываду, што не, і сьцьвярджае, што адзіным спосабам здабыцьця незалежнасьці ёсьць апора на актыўнай сіле народу, ўсьведамленьне гэтай сілы, арганізаваньне яе, буджэньне народнай волі, апрацоўваньне пляну дзеяньня і шуканьне саюзьнікаў — а час ужо пакажа, што трэба рабіць. Гэтае сваё становішча аўтар даказвае цьверджаньнем, што сапраўдная незалежнасьць не даецца, а бярэцца... і ўканцы заяўляе, што прапагандзе справы незалежнасьці Беларусі ў вышэй пададзеным уняцьці служыць часапіс „Беларускі Фронт“.

У гэтым артыкуле пракуратура дагледзела заклік да праступку адарваньня часьці абшару Польскай Дзяржавы і рэд. В. Папуцэвіча, паміма моцнай абароны адв. Б. Аляхновіча, (гл. № 5 „Б. Фр.“ сёлета) выказваўшага адсутнасьць прымет праступку ў гэтым артыкуле, Віл. Акружны Суд 22.III. г.г. засудзіў на вышэй пададзеную кару. Ад гэтага прысуду абвінавачаны адклікнуўся ў Апэляцыйны Суд, каторы аднак прысуд Акружнога Суду ў цэласьці пацьвярдзіў. Адвакат Б. Аляхновіч ад імя падсуднага падаў касацыю ў Найвышэйшы Суд у Варшаве.

не на карысьць беларускага народу, але каб яго асыміляваць. Для нас проста дзіва, чаму гэтак востра і памалалетняму выступіў „Шлях Моладзі“ супроць „Беларускага Фронту“, які зьмясьціў зацемку аб ажыўленьні „Зьвязу“. Якое тут бязглузьдзе, безгалоўе ці правакацыя — ніяк не разумеем! Ці тут ёсьць якое разьбіваньне і яно перашкаджае весьці працу людзям з „Шляху Моладзі“? Але-ж пакульшто ў „Шляху Моладзі“ няма чаго разьбіваць, бо „Ш. М.“ яшчэ толькі зьмяшчае артыкулы аб патрэбе арганізацыі моладзі. Мы ня супроць арганізацыі моладзі, а наадварот, як яна зарганізуецца, вельмі шчыра яе прывітаем. І ўжо цяпер ясна, што ані „Зьвяз“ арганізацыі моладзі, ані наадварот, адно другому перашкаджаць ня будзе, а будуць разам дапаўняць беларускую нацыянальную справу.

4) Аб тэй цёмнай сіле, якая перашкаджае вясьці беларускую працу, мы тут нічога ня ведаем, аб чым там ідзе, але ведаем толькі адно, што ў сапраўднай беларускай нацыянальнай працы перашкаджае ўсім ведамая сіла. Вот і ўсё.

5) „Шлях Моладзі“ з 16.X.37. зьмясьціў рэкляму аб выданай кніжцы Аляхновіча. Мы лічым, што бескарысна прабуе „Ш. М.“ уваскрашаць Аляхновіча, бо гэта ўжо труп для беларускага народу. А гэта абасноўваем наступным: Аляхновіч, драматург і пісьменьнік, мае здольнасьць і ўмее пісаць, але ніякай карысьці беларускаму народу ня дае, бо нічога ня піша — а таму лічым, што ён для нас труп.

Просім зьмясьціць наш ліст і зрабіць свае заўвагі, што ў ім добра, а што дрэнна. Пасылаем нашае прывітаньне.

Ашмяншчына, вёска Буйбы, 24.X.37 г.

Адказваючы на некаторыя пункты пісьма, заяўляем, што каапэратывізм на беларускім грунце новы і дагэтуль мала ведамы. Хоць гэтая тэорыя ў Зах. Эўропе паўстала ўжо даўно, то ў нас ею мала хто займаўся і дзеля гэтага ня мае свайго розгаласу. У яе трэба добра ўдумацца, прастудыяваць нашы перадавыя артыкулы, пачынаючы ад н-ру 6 („Чым замяніць капіталізм“), прадыскутаваць, а тады мы пракана1ны, што ён з цёмнай ночы стане ясным днём. Урэшце аб каапэратывізьме будзем яшчэ няраз пісаць. Справу беларускага школьніцтва будзем парушаць як найчасьцей і ў наступным нумары пададзём праект рэалізацыі гэтае справы, бо прызнаём, што справа школы найбольш балючая і блізкая для нашага сялянства. Аб ажыўленьні „Зьвязу“ зьмяшчаем зацемку на іншым месцы нашай газэты, а такжа адказ „Шляху Моладзі“, з якім парываем палеміку. Рэкляму кніжкі Аляхновіча зьмяшчаем і мы, і раім прачытаць яе кожнаму, хто інтарасуецца мэтадамі і дзейнасьцю розных (ня толькі камуністычных) ГПУ. Можа Ваша вострая крытыка Аляхновіча прабудзіць у ім ахвоту да працы на ніве бел. пісьменства. За прывітаньне дзякуем. Выбачайце, што ў адным месцы крыху зьмянілі дзеля цэнзурных варункаў.

*Рэд.*

**Суд пад аўтарам лемантара „Засеўкі“.**

На 20.X. быў вызначаны суд над С. Паўловічам, аўтарам бел. лемантара „Zasieuki“, выданага сёлета (ў маі) і ў два тыдні пасьля выхаду сканфіскаванага адм. уладамі. Пракуратура закінула аўтару дражненьне нацыян. адносін („jątrzenie stosun. narodowościowych“) у лемантары, не падаючы аднак канкрэтна, у якіх сказах гэтае дражненьне праяўляецца. Абаронца падсуднага, адвакат Б. Аляхновіч, паставіў дамаганьне, каб пракуратура выразна і канкрэтна сфармулавала, што ў лемантары ёсьць праступнага, бо ня маючы канкрэтных закідаў, немагчыма абарона. Суд, ня глядзячы на супраціў пракурора, прыхіліўся да жаданьня адв. Б. Ал. і разгляд справы адлажыў да часу, пакуль пракуратура не зрэдагуе канкрэтна акту абвінавачаньня.

**З „Бел. Гаспадарс. „Зьвязу“.**

17.X. г.г. на паседжаньні Рады «Беларускага Гаспадарскага Зьвязу“ быў перавыбраны ўрад Зьвязу. У новы ўрад ўвайшлі: др. Я. Станкевіч — старшыня, В. Казлоўскі (з Ашмяны) — віцэстаршыня, Ал. Баранавіч — сябра ўраду, др. Ст. Станкевіч — сакратар і М. Смаршчок — скарбнік.

На тымжа паседжаньні пастаноўлена паміж іншым арганізаваць у бліжэйшым часе сэкцыю апекі над тымі беларусамі, якія выехалі з сяла на работу ў месты, галоўна ў Вільню. Пастаноўлена такжа арганізаваць таварыства (гурток) Зьвязу ў Вільні і ажывіць даўней існуючыя гурткі на правінцыі і закладаць новыя. У ўсіх справах „Зьвязу“ зварочвацца: В і л ь н я, Астрабрамская 1—20.

**Пасьвячэньне памятніка А. Левіцкаму.**

Дня 2. XI. адбылося пасьвячэньне памятніка ведамаму бел. пісьменьніку, Антону Левіцкаму, які пісаў свае творы пад псэўдонімам „Ядвігін Ш.“, памёр 15 гадоў таму ў Вільні і пахаваны на Росах. Памятнік у форме обэліска робіць даволі добрае эстэтычнае

# Лік беларусаў у Польшчы.

(*Працяг, гл. № 11 „Бел. Фр.“*)

**Навагрудзкае ваяводзтва.**

Пераходзячы да разгляду Навагрудзкага ваяводзтва, трэба сьцьвердзіць, што яно зьяўляецца найболей чыстым з этнаграфічнага пункту гледжаньня беларускім ваяводзтвам у Польшчы. Калі ў Віленскім ваяводзтве маем у зах. частках літоўскае насельніцтва, ў Беластоцкім—польскае, то ў Навагрудзкім іншай каранной этн. масы бадай што няма, апроч беларускай.

*Баранавіцкі* пав. прастору 3,298 кв. км., насельніцтва (разам з Баранавічамі) 161 тыс., на 1 кв. км. 49 чал., каталікоў 45 тыс., праваслаўных 99 тыс., жыды 16 тыс., іншых 1 тысяча; польская мова 75 тыс., беларус. 67 тыс., рэшта жыды і іншыя. Як бачым, гаворачых папольску афіц. статыстыка налічыла аж 75 тысяч! Добра знаючы Баранавіцкі павет, мы сьцьвярджаем, што там у штодзенным жыцьці польскай мовы ўжываюць толькі ўрадаўцы, большыя землеўласьнікі і асаднікі, а рэшта насельніцтва (апроч жыдоў) гаворыць пабеларуску. Бел. мовы ўжывае такжа дробная шляхта. Паводле нашых падлічэньняў гаворачых набеларуску ў Бар. пав. ёсьць каля 140 тысяч.

*Лідзкі* пав. прастору 4,258 кв. км., насельніцтва 183 з пал. тысяч, на 1 кв. км. 43 чал., каталікоў 145 тыс., правасл. 23 тыс., жыд. 15 тыс., рэшта іншыя. Польская мова 146 тыс., бел. 20 тыс., літоўс. 2 з пал. тыс., рас. 700 чал., рэшта жыды і інш. Гэты павет бадай выключна каталіцкі, аднак каталікі гавораць пабеларуску (так як у суседнім Ашмянскім пав.); ня ведаем, на якой падставе польская статыстыка залічыла іх да гаворачых папольску. У Лідзкім павеце ёсьць трохі і літоўцаў (у ваколіцы Гераноны — Беняконі), літоўскія статыстыкі кажуць, што ёсьць іх там болей, чым паказвае польская статыстыка; калі адлічым іх, гаворачых у штодзенным жыцьці папольску а такжа жыдоў, на долю беларускую выпадзе ў Лідзкім пав. каля 155 тысяч.

*Нясьвіскі* пав. прастору мае 1,968 кв. км., насельніцтва 114 з пал. тыс., на 1 кв. км. 58 чал.; каталікоў 22 тыс., правасл. 82 тыс., жыд. 9 тыс., рэшта інш.; польская мова 28 тыс., беларус. 76 тыс., рас. 800 чал., рэшта жыды і інш. Павет, у каторым ёсьць болей чым у іншых паветах дробнай шляхты, але гэта шляхта сваей мовай, спосабам жыцьця ня рожніцца ад бел. насельніцтва і ёсьць сама паходжаньня беларускага. Прышлых з этнаграфічнай Польшчы мала. Мы лічым у гэтым павеце бел. этнаграфічнай масы 100 тысяч.

*Навагрудзкі* павет прастору 2,930 кв. км., насельніцтва 149 з пал. тысяч, на 1 кв. км. 51 чал., каталікоў 29 тыс., правасл. 108 тыс., жыд. 10 тыс., рэшта іншыя. Польская мова 35 тыс., беларус. 103 тыс., рас. блізу 1 тысяча, рэшта іншыя. Гэты павет нават паводле польскай афіц. статыстыкі ёсьць найболей сьведамым беларускім паветам, але мы, добра знаючы гэты павет, сьцьвярджаем, што лік 103 тысячы гаворачых пабеларуску яшчэ ня вычэрпывае ўсяе бел. этнографічнае масы ў гэтым павеце. Паводле нашых падлічэньняў там ёсьць гаворачых пабеларуску 135 тысяч.

*Слонімскі* пав. прастору 3,069 кв. км., насельніцтва 126 з пал. тысяч, на 1 кв. км. 41 чал; каталікоў 24 тыс., правасл. 89 тыс., жыд. 12 тыс. рэшта іншыя. Польская мова 52 тыс., беларус. 62 тыс., рэшта жыды і інш. Беларусаў у гэтым павеце ёсьць добрых 105 тысяч.

*Стаўпецкі* пав. прастору 2,371 кв. км., насельніцтва 99 з пал. тысяч, на 1 кв. км. 42 чал., каталікоў 38 тыс., праввсл. 54 тыс., жыд. 7 тыс. Польская мова 52 тыс., беларус. 40 тыс., рас. 600 чал., рэшта жыды і інш. У гэтым павеце бел. этнаграфічнай масы ёсьць болей 85 тысяч.

*Шчучынскі* пав. прастору 2,273 кв. км., насельніцтва 107 тысяч, на 1 кв. км. 47 чал., каталікоў 60 тыс., правасл. 39 тыс., жыд. 8 тыс., польская мова 89 тыс., беларус. 10 тыс. Дзіўна, адкуль польская статыстыка набрала ў Шчучынскім пав. аж 89 тыс. гаворачых папольску, калі ведама, што там насельніцтва агулам бяручы гаворыць пабеларуску. Паводле нашага аблічэньня ў гэтым павеце ёсьць 95 тысяч беларусаў.

*Валожынскі* павет прастору 2,799 кв. км., насельніцтва 115 з пал. тысяч, на 1 кв. км. 41 чал., каталікоў 62 тыс., правасл. 48 тыс., жыд. 5 тысяч. Польская мова 77 тыс., беларус. 33 тысячы; паводле нашага аблічэньня ў Валож. пав. ёсьць беларусаў 105 тысяч.

Падсумоўваючы ўсю беларускую этнаграфічную масу Навагрудзкага ваяводзтва атрымаем **920 тысяч**.

**Беластоцкае ваяводзства.**

Падлічэньні беларускага насельніцтва ў Беластоцкім ваяв. будзе труднейшае, чым у Навагрудзкім, бо ў ім ёсьць паветы этнаграфічна мяшаныя польска-беларускія.

Этнаграфічная мяжа аднак даволі выразная, яна праходзіць меней-болей ад Аўгустова простападла на поўдзень па лініі Штабін, Кнышын, Хорашч, Боцькі, Мілеўчыцы, Мельнік над Бугам, там ужо стыкаецца з украінскай этнаграфічнай масай. На гэтай мяжы здараюцца такія мясцовасьці ў Беластоцкім і Бельскім паветах, дзе гавораць нейкай польска-беларускай гаворкай, як „прысэд“, „напрэціў“, „грэхі“ і г. п. Куды залічыць гэтую „мову“? Ясна, што палякі залічваюць яе да польскай, а беларусы—да беларускай. Але гэтакія моўныя дзівосы далёка ўглыб аднэй ці другой этнографічнай тэрыторыі не заходзяць, затым падлічэньні з гэтага боку не напатыкаюць на большыя труднасьці.

*Горадзенскі* пав. (з Горадняй) 4,459 кв. км., насельніцтва 213 тыс., на 1 кв. км. 48 чал., з гэтага *сам павет* насельніцтва мае 163 з пал. тысячы, каталікоў 67 з пал. тысяч, правасл. 81 тыс., жыд. 14 з пал. тыс., польская мова 77 з пал. тысяч., беларус. 62 з пал. тысяч, літоўс. 6 тыс., рас. 2 тыс., рэшта жыды і інш. Гэты павет

ўражаньне, толькі знаўцы кажуць, што недаўгавечны, бо пастаўлены не на каменнай, а на бэтонавай падставе, а бэтон паверх зямлі пад уплывам атмосфэрычных зьменаў, скора трэскае і крышыцца. Гэтага-ж дня адбылася на Завальнай вул. у чэсьць Нябошчыка жалобная акадэмія з рэфэратам аб творчасьці Ядвігіна Ш.

На памятніку беларускі надпіс: Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі) беларускі пісьменьнік, 1866—1922. Далей цытата з „Дзеда Завалы“: „Даўно было гэта: Хадзіць чуткі сталі—Аб Вялікай Волі — Усе заталкавалі“, а ўнізе: „Свайму Пісьменьніку—Беларусы“.

### Забарона 4-х ваяводаў.

Цэнтральны Камітэт Партыі Бел. Нацыянал-Сацыялістаў атрымаў ад ваяводаў: Віленскага, Наваградзкага, Палескага і Беластоцкага забарону дзейнасьці на абшары гранічнага пояса (pasa granicznego), бо дзейнасьць гэтай партыі „jest niewskazana ze względów bezpieczeństwa publicznego“. Пастанова гэтая на падставе арт. 16 распараджэньня Прэзыдэнта Дзяржавы аб граніцах ёсьць зараз-жа выканальнай і не вымагае матываваньня. Ад пастановы ваяводаў дадзена магчымасьць рэкурсу ў Мін. Нутр. Спраў.

Ад сябе адзначым, што Цэнтр. Камітэт Бел. Нац. Сацыялістаў утварыўся сёлета ў чэрвені і выбраў спасярод сябе павадырства (провад) у такім складзе: Ф. Акінчыц—старшыня, Ул. Казлоўскі — сакратар і К. Юхневіч — скарбнік. Забарона 4-х ваяводаў фактычна ліквідуе гэту партыю, бо трэба ведаць, што „гранічны пояс“ сягае глыбей, чым прыгранічная паласа, бо да 60 км. і абхапляе нават саму Вільню, дзе знаходзіўся Цэнтр. Камітэт партыі.

### Пачатак акад. году ў БСС.

23. X. Бел. Студэнцкі Саюз у Вільні ладзіў вечар, якім пачаў новы акадэмічны год. На праграму вечара злажыліся: 1) уступнае слова старшыні БСС—А. Дасюкевіча, 2) рэфэрат аб асновах бел. студэнцкае працы прачытаў М. Шчорс, 3) рэцытацыя сваіх твораў—М. Танк і дэклямацыі — Сухая і В. Чарнэцкая.

На асабліўшую ўвагу заслугоўвае рэфэрат М. Шчорса, які выклікаў водгукі ў прэсе БНА і быў азначаны, як фашыстоўкі і антыдэмакратычны, аднак трэба сьцьвердзіць, што быў ён толькі *нацыянальны і антыкамуністычны*. Студ. М. Шчорс, адзін з выдатнейшых адзінак бел. студэнцкае моладзі (праз тры папярэднія гады быў старшынёў БСС) даў зусім правільны нарыс асноваў бел. адраджэнскай працы, выказваючы пагляды бел. студ. моладзі, а нават у пэўнай меры і ўраду БСС, які запрасіў М. Шчорса з рэфэратам. Тэзы рэфэрату такія: Беларускі народ ня ёсьць ніжэйшым, але поўнавартасным у сям'і ўсіх народаў; беларускі студэнт павінен гэта адчуць і актыўна працаваць для сваей нацыі; ў сваей працы павінен кіравацца самакрытыкай, каб не зыйсьці на блудныя дарогі апартунізму і служэньня іншым; каб разьвіць бел. нацыянальную працу, патрэбна незалежнасьць эканамічная; гэтак званы буржуазны дэмакратызм, на якім апіраюцца некаторыя бел. групы, не вырашае бел. грамадзкіх, палітычных і нацыянальных пытаньняў; беларускі студэнт павінен ар'ентавацца на свой народ і гуртавацца ў сваей беларус. арганізацыі.

Трэба пажадаць Студэнцкаму Саюзу, каб у сваей дзейнасьці быў згодны з тэзамі рэфэрату і гэтым набліжаўся да беларускіх найвышэйшых Ідэалаў, да вернасьці якім так горача і прыгожа заклікаў М. Шчорс

### Выйшлі „Пралескі“.

У апошнім тыдні, пасьля доўгага перарыву, выйшаў чарговы нумар месячнага часапісу для дзяцей „Пралескі“. Гэты часапіс мае ў бел. народзе сваю добрую славу і выхад яго трэба толькі прывітаць, тымболей што добрага часапісу для дзяцей, друкаванага лацінкай, ня было, а „Снапок“ друкуецца гражданкай, якой школьныя дзеці ня знаюць, дый апошнім часам неяк падупаў і разьмерам і зьместам. Астаецца толькі пажадаць, каб рэдакцыя „Пралесак“ не падупала, але старалася даць дзецям заўсёды жывы і здаровы матар'ял, а такжа каб не затрымалася на распачатым шляху. Зьмест апошніх „Пралесак“ жывы і для дзяцей адпаведны, нявыразны толькі друк, а некаторых літар зусім ня відаць. Гэта ў наступным нумары трэба паправіць, бо для дзіцяці кожная літара павінна быць выразная.

Выпіска „Пралесак“, у год толькі 50 грошаў, адрас: Вільня, вул. сьв. Яна 12 (S-to Jańska 12).

### „У капцюрох ГПУ“.

Пад гэтакім загалоўкам выйшла ў сьвет кніжка ведамага беларускага пісьменьніка і драматурга Ф. Аляхновіча, які праз 7 гадоў быў у ссылцы на „слаўных“ Салавецкіх выспах і ў 1933 годзе быў выменены польскім урадам на Тарашкевіча, (якога цяпер Саветы залічылі да „ворагаў народу“). У 1926 г. Аляхновіч, бачачы ў Саветах вялікае разьвіцьцё бел. культуры, выехаў у Менск, а потым у Віцебск і стаў працаваць у сав. культурных установах, як сымпатык (попутчик) савецкага ладу, але скора быў арыштаваны і высланы на „Салоўкі“ Свае цярпеньні, перажываньні, варункі савецкага жыцьця а такжа мэтады ГПУ Аляхновіч апісаў у кнізе „У капцюрох ГПУ“. Кніжка мела ужо два выданьні польскія, апроч гэтага пераложана на ўкраінскую мову, партугальскую, гішпанскую. Зьмест цікавы, апрацоўка літэрацкая, некаторыя сцэны прадстаўлены памастацку, пачытаць ёсьць што. Чытаючы гэту кніжку, можна пазнаць ня толькі мэтады ГПУ, але і іншых падобных установаў. якія пры кожнай дыктатуры аднолькавы...

### „Шлях Моладзі“ грубіяніць.

Наш заклік, каб „Шлях М.“ вёў палеміку ў болей культурных формах, мала памог, „Шлях Моладзі“ далей грубіяніць. Відаць „Шляху Моладзі“ в е л ь м і неспадабалася, што мы парушылі справу ягоных гутарак з польскай дэмакрацыяй у кірунку польска-бел. збліжэньня. Магчыма, што „Ш. М.“, хацеўбы гэту прыкрую для яго справу збыць моўчкі і ня маючы чым пахваліцца, у знэрваваньні далей абзывае нас „моцнымі“ славамі, а нашы дамаганьні, каб выявіць усю праўду аб спробах польска-бел. збліжэньня, абзывае пагрубіянску „правакацыйна-жандарскімі“ пытаньнямі і заяўляе, што на іх адказваць ня будзе.

Уважаем, што гэты адказ ёсьць горшы за шчырае прызнаньне да ўсяго, бо дае прычыну рабіць розныя вывады на тэму новых палітычных камбінацыяў беларусаў з Завальнай вуліцы. Мы разумеем труднае палажэньне тых беларусаў, якія, зайшоўшы ў палітычны тупік, шукаюць цяпер выхаду ў сапраўдным ці замаскаваным паланафільстве; разумеем таксама знэрваваньне „Шляху Мол., які гэтак моцна скампраметаваўся ў сваіх гутарках з польскай дэмакрацыяй (нейкая „таёмная рука“ забараніла польскай старане нават гаварыць з ім!), але не разумеем, чаму ня можна выявіць тайніц гэтых гутарак? Няўжо такі вялікі дыпляматычны сакрэт? Няўжо гразіць за гэтыя гутаркі нейкая кара? Мы гэтага не дапускаем. Мы дапускаем небясьпеку гутаркі і пакту з камуністамі, з літоўцамі, а нават з немцамі ці японцамі, але з палякамі? Ды ўрэшце аб сваіх гутарках з „японскім дыпляматам“ прэса БНА пісала нядаўна з вялікаю хвальбою, не баючыся ніякай кары. Калі за гутаркі з японскімі дыпляматамі не гразіць ніякая кара, то тымболей за гутарку з польскімі! Значыць, уся сутнасьць і прычына адказу „Ш. М.“ ня ў нашых „жандарскага“ характару пытаньнях, а ў чым іншым, чаго выявіць „Ш. М.“ ня хоча, або яму забаронена.

У справе гэтых польска-беларускіх гутарак пісаў яшчэ і „Kurjer Powszechny (8.X. г.г.), які пачуўся „заскочаным“ рэвэляцыяй „Шляху Мол.“ аб тым, што нейкая „таёмная рука“ парвала спробы навязаць супрацоўніцтва з беларусамі з мэтай направы польска-беларускіх адносін. Разам з гэтым „Kur. Pow.“ адказвае на наш здогад, ці гэта ня ZNP або ППС загадалі яму парваць гутаркі з беларусамі і заяўляе, што ён ёсьць незалежным дэмакратычным органам і ад ніякай арганізацыі ніякіх загадаў не атрымлівае.

Значыць, справа польска-беларускіх перагавораў і справа

---

бадай увесь этнаграфічна-беларускі, толькі на поўначы жыве ня многа літоўцаў, адлічыўшы іх, жыдоў а такжа гаворачых папольску, беларусаў будзе каля 130 тысяч. Горад *Городня* мае насельніцтва 50 тыс., кат. 21 тыс., правасл. 6 тыс., жыд. 21 тыс., польская мова 23,458, бел. 1,261, рас. 3,730. У Горадні бел. этн. масы мы лічым каля 20 тысяч. Значыць увесь павет 150 тысяч.

*Ваўкавыскі* пав. прастору 3,938 кв. км., насельніцтва 171 тыс., на 1 кв. км. 43 чал., каталікоў 76 тыс., правасл. 77 тыс., жыд. 13 тыс., рэшта іншыя. Польская мова 83 тыс., беларус. 72 тыс., рас. блізу 3 тыс. На наш пагляд гэты павет, так як і Горадзенскі ёсьць этнаграфічна-беларус. паветам і гаворачых пабеларуску ў ім ёсьць каля 155 тысяч.

*Сакольскі* пав. прастору 2,333 кв. км. насельніцтва 103 тыс., на 1 кв. км. 44 чал., каталікоў 81 тыс., правасл. 13 тыс., жыд. 8 з пал. тысяч; польская мова блізу 93 тыс., беларус. блізу 2 тыс., рэшта жыды і інш. Гэты павет ёсьць у вялізарнай большасьці каталіцкі, дык польскія статыстыкі залічаюць яго да паветаў польскіх, аднак гэта памылкова. Гавораць там чыстай беларускай мовай, якую нам перадаў польскі этнограф Федароўскі ў сваей працы „Lud białoruski“ (4-ты том выдала нядаўна Польская Акадэмія Навук у Кракаве), а зах. часткі павету, якія найболей падлягаюць польскім уплывам, далі шмат бел. дзеячоў. Гаворачых пабеларуску ў гэтым павеце ёсьць каля 80 тысяч.

*Беластоцкі* пав. (без Беластоку) мае прастору 3,079 кв. км., насельніцтва 140 тыс., на 1 кв. км. 45 чал., каталікоў 105 з пал. тысяч, правасл. 22 тыс., жыд. 11 тыс., рэшта іншыя. Польская мова блізу 117 тыс., беларус. блізу 10 тыс., рас. блізу 2 тысяч. Гэты павет мяшаны: польска-беларускі. Заходнія часткі павету належаць да польскай этнаграфічнай тэрыторыі, а цэнтральныя з г. Беластокам і ўсходнія—да беларускай. Трэба прызнаць такжа, што палянізацыя ў цэнтр. частках павету зрабіла вялікія поступы, асабліва на захад ад Беластоку, аднак трэба сьцьвердзіць, што большасьць павету гаворыць пабеларуску, хоць у цэнтр. частцы сапсутым акцэнтам, што дало повад некаторым польскім статыстыкам залічваць гэты павет да этнаграфічна польскай тэрыторыі, а некаторым украінскім частку (каля Заблудава) да этнагр. украінскай тэрыторыі. Дзеля гэтага на некаторых украінск. картах укр. этнагр. тэрыторыя паказана аж пад Беласток або і далей. Мы аднак, знаючы добра гэты павет, сьцьвярджаем, што ўкраінскага насельніцтва там няма, а польскае жыве на захад ад лініі Добрынева-Кнытым-Далістово, а на ўсход беларускае, якога-ж ёсьць каля 90 тысяч. Беластоцкі павет чакае на свайго этнографа. Горад *Беласток* насельніцтва мае 91 тыс., кат. 41 з пал. тыс., правасл. 7 з пал. тыс., жыд. 39 тыс. Польская мова 46 тысяч, рас. блізу 4 тыс., рэшта жыды і інш. Беларусы ў польскай статыстыцы не азначаны. Чаму? Мы ведаем, што там ёсьць многа бел. работніцтва, было ў сваім часе многа бел. арганізацыяў, дык беларусы ў Беластоку ёсьць і нават у даволі значнай колькасьці. Мы азначаем лік бел. этнаграфічнай масы ў Беластоку найменш на 20 тысяч.

*Бельскі* павет прастору 4,988 кв. км., насельніцтва 202 тыс., на 1 кв. км. 41 чал., каталікоў 91 тыс., правасл. 91 тыс., жыд. 18 тыс., рэшта іншыя. Польская мова 111 тыс., беларус. 58 тыс., рас. 12 з пал. тыс., украінс. блізу 2 тыс. Гэты павет таксама мяшаны — польска-беларускі, як і Беластоцкі з невялікаю колькасьцю ўкраінцаў. Апіраючыся на тым што праваслаўная палавіна гэтага павету гаворыць паўднёвым беларускім дыялектам, зближаным да ўкраінскай мовы, ўкраінскія этнографы залічаюць яе да ўкр. этнагр. масы, аднак гэта няслушна, так як няслушна залічылі расейскія этнографы паўночныя чатыры паветы Чарнігаўшчыны (Суражскі, Навазыбкаўскі, Мглінскі і Старадубскі), тры паветы Віцебшчыны (Вяліжскі, Невельскі і Себежскі), а такжа ўсю зах. часьць Смаленшчыны да расейскай этнаграфічнай масы і далучылі да Расеі (РСФСР). Трэба ведаць, што беларускія дыялекты ёсьць розныя, на поўначы і на ўсходзе яны зближаны да расейскай мовы, а на поўдні — да ўкраінскай, але гэта збліжэньне не дае падставы залічваць тое насельніцтва, якое іх ужывае, да расейскай або ўкраінскай этнагр. масы. Дый яно само сябе азначае беларусамі, як гэта бачым у Бельскім павеце. Тым украінскіх уплываў няма, а ёсьць толькі беларускія. Дзеля гэтага правасл. палавіну павету мы залічаем да беларус. этнагр. масы, а такжа тых каталікоў, якія ўжываюць дома беларус. мову. Трэба яшчэ адзначыць, што няма ў гэтым павеце такога вялікага ліку расейцаў, як гэта паказана ў афіцыяльнай статыстыцы (болей 12 тысяч), там іх ёсьць ня болей пару сот асоб, так як і ў іншых паветах. Дзеля гэтага ўважаем, што лік беларусаў у Бельскім пав. выносіць найменш 110 тысяч.

Агляд Беласт. ваяв. ня можна скончыць, не разгледзеўшы яшчэ *Аўгустоўскага* павету, які ляжыць на захад ад Горадні і падыходзіць пад самую Горадню. І там жывуць беларусы. Праф. Карскі, які асабіста ў 1901 г. зьведаў этнагр. лінію, налічваў іх 38 тысяч, г. зн. палавіну Аўгустоўскага павету. І сапраўды, там яшчэ цяпер у ваколіцах Сапоцкінь, Ліпска, Штабіна аж пад сам Аўгустоў гавораць пабеларуску. Прастору гэты павет мае 2,035 кв. км., насельніцтва 75 тыс., на 1 кв. км. 36 чал., каталікоў 67 тыс., правасл. ня цэлая тысяча, жыд. 4 тыс. Беларусаў у афіц. статыстыцы не паказана зусім, усе каталікі запісаны да гаворачых папольску, мы аднак, ня гледзячы на поступы палянізацыі, лічым там 35 тысяч беларусаў. Жыве некаторая колькасьць беларусаў і ў *Сувалскім* пав. (у трыкутніку паміж Нёманам і Аўгуст. каналам), але лік іх там невялікі, каля 5 тысяч.

Такім парадкам у ўсім Беластоцкім ваяводзтве, поводле нашых абліч̌аньняў ёсьць **645 тысяч** беларускай этнаграфічнай масы.

(*Канец будзе*).

# На міжнародным грунце.

(*Агляд міжнароднай палітыкі за месяц кастрычнік*).

### Пляны Японіі.

Увага ўсяго сьвету зьвернена цяпер на Далёкі Усход, дзе адбываецца крывавае змаганьне паміж Японіяй і Кітаем. Пішучы ў папярэдніх нумарох „Б. Фр." аб плянах Японіі, мы не дапускалі, каб яе пляны ішлі гэтак далёка. Тады мы казалі, што Японія хоча здабыць для сябе паўночны Кітай, каб там стварыць для сябе базу (заплечча) на выпадак вайны з Саветамі. Мы тады не дапускалі тэй думкі, што Японія хоча ўзалежніць ад сябе *ўвесь* Кітай, аднак пазьнейшыя падзеі і далейшыя весткі аб мэтах Японіі паказалі, што пляны яе яшчэ далей сягаюць, чым апанаваньне Кітаю, а іменна да апанаваньня *ўсей Азіі*. Эўрапэйская і амэрыканская прэса выкрывае яшчэ далейшыя японскія пляны і кажа, што Японія ідзе да таго, каб зарганізаваўшы Азію, павесьці яе на пакарэньне ўсяго сьвету... Гэта выглядае на байку, аднак аб гэтым паважна пішуць японскія публіцысты, палітыкі, вучоныя. Закладзіны сусьветнага валадарства пад павадырствам жоўтай расы, якая лічыць 600 мільёнаў (у гэтым японцаў каля 70 мільёнаў), ёсьць апошняй мэтай японскіх палітыкаў. Трудна паверыць у гэты плян, настолькі ён фантастычны! Магчыма, што ў пашыраньні гэтых вестак крыецца праціўяпонская агітацыя, якая, паказваючы на „жоўтую небясьпеку", хоча наставіць сьвет проціў Японіі, але з другога боку трэба сьцьвердзіць, што ідэя сусьветнага валадарства пад павадырствам Японіі сур'ёзна распрацоўваецца ў японскіх навуковых і палітычных кругох.

Гэта ёсьць тэорыя, а цяпер прыгледзімся, як у практыцы ўдаюцца Японіі гэтыя пляны, прадусім у Кітаі, які папаў пад першы японскі агонь. Трэба прызнаць, што каля Шанхаю Японія, паміма крывавых баёў, мала пайшла ўперад, дык некаторыя падазраюць, што тут адбываецца толькі дывэрсыя, каб адцягнуць кітайскія сілы з паўночнага фронту і каб мець у будучыне гатовы пляцдарм дзеля паходу ў цэнтральны і паўднёвы Кітай. Затое ў паўночным Кітаі Японія даходзіць ужо да Хоанг-Хо (Жоўтай ракі, пакітайску „хоанг"—жоўты, а „хо"—рака), і заняла дзьве мангольскія правінцыі: Суіюан і Чахар, з якіх творыць *Мангольскую дзяржаву*, так як у 1932 г. утварыла Манджурыю. Гэтым Японія хоча адрэзаць Кітай ад Саветаў і савецкай помачы, а такжа дзеіць на Вонкавую (паўночную) Манголію, якая знаходзіцца пад апекай Саветаў, а далей на ўсе мангольскія плямёны Сібіру... Каб зусім адрэзаць Саветы ад Кітаю, Японія падняла праціў Саветаў музулманскія плямёны Усходняга Туркестану і нават разам з Італіяй прыймае ўдзел у арганізацыі ўсіх музулман, ад Палестыны да Індыі (ў Азіі), ад Эгіпту да Марокка (ў Афрыцы).

Савецкая помач для Кітаю можа цяпер дастаўляцца толькі на аэраплянах або на вярблюдах праз шырокія пустыні, дык дастаўкай аружжа і амуніцыі заняліся болей Англія, Францыя, Галяндыя і Злуч. Штаты П. Амэрыкі. Яны дастаўляюць з поўдня, праз франц. і англ. калёніі, бо на моры Японія абвесьціла блёкаду кітайскіх берагоў. Відаць, Японія не спадзявалася гэткай вялікай помачы і гэткай вялікай упорыстасьці кітайцаў, якія б'юцца зусім добра і ўступаюць толькі перад японскай тэхнікай. Кажуць, што Японія выслала ў Кітай 800 тысяч войска і яшчэ ўсё дасылае штораз новыя транспарты. Гэта паказвае, што цяпер з Кітаем справа ня лёгкая! Вонкавая помач а такжа праца нямецкіх і італьянскіх інтруктароў, з якіх некаторыя яшчэ дагэтуль працуюць у кітайскай арміі, на марна не пайшла. Але гэта армія тэхнічна слабейшая за японскую і дзеля гэтага мусіць адступаць. На вайне цяпер адыгрывае ролю ня колькасьць людзей, а тэхніка (аэрапляны, танкі і інш.). Каб перамагчы ўсе труднасьці, Японія паклікала да жыцьця „трэст (супалку) мазгоў", да якой належаць выдатныя японскія палітыкі і вучоныя з усіх паліт. кірункаў. „Трэст мазгоў" мае быць дарадчым органам пры японскім урадзе.

Бліжэйшыя *мэты Японіі ў Кітаі* цяпер такія: 1) ўтварыць „незалежную" Манголію, 2) скінуць урад Чанг-Кай-Шэка і назначыць свой, які згадзіўся-б праводзіць у жыцьцё кліч „Азія для азіятаў" і які пайшоўбы разам з ёю проціў Саветаў...

А што на гэта *Саветы*? Тыя да вайны гатовяцца ўсімі спосабамі, шукаюць саюзаў заграніцай, уваружваюцца ў сябе дома, высылаюць вайсковыя транспарты на Далёкі Усход бяз упынку. Саветы добра ведаюць, што калі яны *цяпер* ня выступяць проціў Японіі, то пасьля будзе позна: Японія разам з Кітаем зьнішчыць іх... Але яны баяцца двух рэчаў: выступленьня „ворагаў народу" ўнутры і ўдэру звонку, з захаду. Тухачэўшчына, розныя нацыяналісты, трацкісты і іншыя „контррэвалюцыянэры" ў часе вайны падымуць галаву, а іх ёсьць цэлая цьма, як у ніводнай дзяржаве, нават у вярхох партыі і ўраду, а да гэтага грозіць з захаду нямецкая сіла... Паводле газэтных вестак Нямеччына на падставе антыкамуністычнага саюзу забавязана выступіць у абароне Японіі, каліб на яе напалі Саветы, толькі як яна гэта зробіць? Даўней Саветы баяліся, што з Нямеччынай выступіць разам Польшч, але цяпер Польшч хоча быць нэўтральнай, а нават зьбліжаецца да Францыі і Англіі, значыць, Нямеччына, хочучы дайсьці да Саветаў, муселаб нарушыць нэўтральнасьць Польшчы, а гэта выклікалаб выступленьне Польшчы проціў Нямеччыны. Польскія адказныя дзейнікі няраз заяўлялі, што Польшч чужой арміі праз сваю тэрыторыю ня пусьціць. А тады кудою? Праз Літву і Латвію? Праз Чэхаславаччыну і Румынію? А што на гэта Францыя, а што Англія? Гэта грозілаб такім пажарам, якога яшчэ сьвет ня бачыў нават у 1914-1918 г. Прыгэтым знаўцы ўсходніх спраў, як напр. Отмар-Бэрсон, б. маскоўскі карэспандэнт „Gazety Polskiej", выдалены ў мін. годзе з Масквы, нядаўна на публічным рэфэраце ў Вільні цьвярдзіў, што савецка-японская вайна пачнецца *на вясну*... Калі яго прароцтва збудзецца, што тады? Ці гэта ня будзе пачаткам сусьветнага пажару? Гэтае прароцтва ўрэшце згаджаецца з славамі Варашылава, які ў Менску заявіў: „Мы ніколі ня былі так блізка да вайны, як цяпер. Надыходзіць вялікая бура. Няхай кожны прыгатуецца да вялікіх падзеяў, няхай будзе гатоў бараніць бацькаўшчыну".

### Выступленьне Рузвэльта.

У сувязі з далёкаўсходнімі падзеямі знаходзіцца ведамае выступленьне прэзыдэнта Злуч. Штатаў Паўноч. Амэрыкі, Рузвэльта, які ў трох прамовах асудзіў паступаньні Японіі і іншых фаш. дзяржаў. Зьмест прамоў Рузвэльта такі: на сьвеце дзеецца міжнароднае бяспраў'е, якое грозіць новаю сусьветнаю вайною. Нарушана многа міжнародных забавязаньняў, вядуцца крывавыя войны без аб'яўленьня, масова забіваюць спакойнае насельніцтва, топяць караблі і яшчэ жадаюць, каб ім у гэтым не перашкаджаць. Гэта ўсё не пазваляе Злуч. Штатам дзяржацца ў старане ад сусьветных падзеяў і прымушае чынна выступіць у абароне міру...

Гэтыя словы значылі, што Злуч. Штаты выступаюць актыўна проціў Японіі і іншых фаш. дзяржаў па старане Англіі Францыі і Саветаў. У адказ на выступленьне Рузвэльта, Італія афіцыяльна праз свайго пасла ў Токіо заявіла, што салідарызуецца з Японіяй... а Мусоліні ў аднэй з апошніх сваіх прамоў заявіў, што ня радзіць нікому задзірацца з Італіяй... Але найгалаўнейшае тое, што Амэрыка празначыла на ўваружэньне 2 мільярды даляраў, а ў Англіі ваенныя фабрыкі працуюць дзень і ноч, а Японія стараецца ўмацавацца у Сярэдняй Амэрыцы, у Нікарагуі, каб адтуль пры помачы аэраплянаў збурыцьПанамскі канал... Словам вузлы завязваюцца кругом.

### Палестынскія справы.

Палестына ёсьць трэцім (пасьля Гішпаніі і Кітаю) пунктам, дзе адбываецца вайна. Гэта вайна мае таксама міжнароднае значэньне, бо там выступаюць не адно арабы проціў жыдоў, але ўвесь мусулманскі (магамэтанскі) сьвет проціў Англіі. А трэба ведаць,што пад аднэй Англіяй ёсьць каля 150 мільёнаў магамэтан! З Палестыны музулманская акцыя ідзе на ўсход, аж да Індыі, і на захад, аж да Марокка. Гэта акцыя цяпер знаходзіцца пад апекай Італіі і Японіі, а Мусоліні нядаўна аб'явіў сябе апякуном усіх магамэтан і нават атрымаў ад арабаў Лібіі шаблю Магамэта! (Вось клясычны прыклад выкарыстоўваньня рэлігіі палітыкай!) Магамэтане, маючы такую сільную помач, пачалі востра выступаць проціўАнгліі і Францыі, якія паддзержываюць жыдоўскую калянізацыю ў Палестыне і хто ведае, ці ня скінуць жыдоў у Міжземнае мора... Англія выразна стала на старане жыдоў і на арабскія выступленьні адказала рашучымі рэпрэсіямі, якіх не паўстыдаласяб фашыст. дзяржава. 380 знатных арабскіх павадыроў замкнула у канцэнтр. лагерах, а некаторых выслала на пустынныя выспы на Індыйскім акіяне; увяла ваеннае палажэньне, узрывае дынамітам дамы, у каторых знойдзена аружжа, накладае кантрыбуцыі і г. д. Як бачым і сапраўды дэмакратычныя дзяржавы, калі дайдзе да пазуроў, паступаюць так, як Італія ў Абісыніі...

Павадыр палестынскіх арабаў, Вялікі Муфті Гуссэйн, уцёк з Ерусаліму ў Сырыю, дзе яго францускія ўлады інтэрнавалі. Гэта яшчэ болей распаліла арабскую нянавісьць і выклікала бунты ў франц. Марокку.Кажуць што *Гуссэйн рыхтаваў паўстаньне проціў Англіі з мэтай закладзін усе-арабскага валадарства*. Гэта ідэя пашыраецца цяпер па ўсей Арабіі. З усяго выглядае, што палестынскія падзеі абымуць увесь мусулманскі сьвет.

### У Гішпаніі.

Паўстанцы, апанаваўшы паўночны фронт, перакінулі сваё войска на мадрыцкі і гатовяцца да канчальнага бою. Прыгэтым удэр быццам гатовяць з сушы і з мора, каб адрэзаць Барцэлёну ад Валенцыі і ўзяць у палон чырвоны ўрад. Дзеля гэтага чырв. урад пасьпешна пераехаў у сталіцу Каталёніі, Барцэлёну, якая ляжыць бліжэй да францускай граніцы. З усяго відаць, што ў Гішпаніі даходзіць да рашучых падзеяў. Магчыма, што ў гэтыя падзеі ўмяшаецца Францыя, так як умяшалася Італія і займе адну з Балеарскіх выспаў на Міжземным моры—Мінорку, тады калі Італія заняла другую выспу—Маёрку. Францыя баіцца, што на выпадак новай эўрапэйскай вайны, Італія перарэжа ёй марскія шляхі з Алжырам і Тунісам, а Балеарскія выспы якраз ляжаць на гэтых шляхох... Апроч гэтага Італія ўкрапляе другую выспу на Міжземным моры (Пантэлярыю) ў найвузейшым яго месцы, паміж Сыцыліяй і Тунісам, каб пры помачы цяжкой артылерыі і мін спыніць плаваньне па Міжземным моры. Тады Гібралтар і Суез, якія пілнуюць выхадаў з Міжз. мора і якія належаць да Англіі, страціліб сваё значэньне.

### Канфэрэнцыя 9-ці дзяржаў.

3. XI. сабралася ў Бруксэлі (Бельгія) канфэрэнцыя 9-ці дзяржаў, якія ў 1922 г. падпісалі нянарушальнасьць граніц Кітаю. Японія на гэту канфэрэнцыю дэлегатаў ня выслала. Канфэрэнцыя мае вялікае паліт. значэньне, бо ў ёй бяруць удзел усе заінтарасаваныя на Далёкім Усходзе дзяржавы, ня вылучаючы Злуч. Штатаў!

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч,*

Адказны рэдактар: *мгр. В.Гадлеўскі.*

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ" выйдзе 5-га сьнежня.*

„таёмнай рукі", якая гэныя перагаворы прарвала, астаецца нявыясьненай. Тайніцы не раскрыў ані „Шлях Мол." ані „Kur. Powsz." А шкода,выяўленьне гэтай тайніцы кінулаб шмат сьвятла па сучаснае палажэньне бел. народу і на дыпляматычныя ходы некаторых бел. дзеячоў.

Уканцы хацеліб яшчэ раз зьвярнуць увагу рэдактароў „Ш. М." на патрэбу культурнасьці ў газэтнай палеміцы. Нашто сябе так моцна паніжаць і даваць доказы свайго неўзгадаваньня і нават грубіянства?Урэшце якім спосабам рэдакцыя „Ш. М." зможа пашыраць культуру пасярод бел. моладзі, сама ня маючы гэтай культуры? Нястача культуры ў нашых праціўнікаў не дае нам магчымасьці ў далейшым весьці з імі палеміку.

### Пракапеня ў Беластоку.

28.X. г.г. адбыўся канцэрт ведамага беларускага пяюна — барытона Паўла Пракапені ў Беластоку. На гэтым канцэрце мелі месца характэрныя факты, якія трэба адзначыць. Стараства забараніла пяяць на канцэрце беларускія і расейскія песьні, а толькі польскія і італьянскія. Хор Семёнава прапяяў некалькі песьняў польскіх і скончыў свой дэбют, а Пракапеня, прапяяўшы некалькі песьняў італьянскіх і польскіх,запяяў песьню рас. бурлакоў з-над Волгі „Эй ухнем", а потым заявіў, што выканае песьню сваей кампазыцыі, адзначаючы прытым, што сам паходзіць з-пад Слоніма і пачуваецца да абавязку запяяць нешта ў роднай мове. Прадстаўнік старацтва пробаваў прарваць песьню, але не ўдалося, дык пасьля сканчэньня зачыніў канцэрт. Тады паднялася на залі сапраўдная бура,публіка крычала, каб пяяць беларускія песьні: „Лявоніху" „Чамуж мне ня пець" і іншыя. Пракапеня са сцэны заявіў, што ён заграніцай прадстаўляе польскую песьню, а ў сябе дома хацеўбы запяяць беларускую? Прыгэтым дабавіў, што роднай песьні, ў якой радзіўся і якія маці яму пяяла,не зрачэцца ніколі...

Гэты факт сьведчыць аб тым, што Пракапеня штораз мацней станавіцца на свой родны беларускі грунт.

Выдавец: В. Папуцэвіч.

Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.